«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info, в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 73 (4633)

24 верасня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Падпішыцеся, калі ласка, на PDF-версію «Народнай Волі»!

Час ідзе, а праблема з доступам газеты «Народная Воля» (як, дарэчы, і іншых незалежных выданняў) да друкарань не вырашаецца. Таму даносім свабоднае СЛОВА ў электронным варыянце. А паколькі рэдакцыя не мае даходаў ад рэалізацыі газеты ў шапіках, выключаны іншыя формы папаўнення бюджэту, то вялікая зацікаўленасць у тым, каб было як мага больш падпісчыкаў на PDF-версію газеты. У выйгрышы ад гэтага не толькі рэдакцыя, але і вы, шаноўныя чытачы. З цікавымі, змястоўнымі матэрыяламі кожнага чарговага нумара «Народнай Волі» вы маеце магчымасць азнаёміцца значна раней, чым яны з'явяцца на сайце. Па-другое, калі мы адновім выданне газеты ў нармальным рэжыме, то для вас, сённяшніх падпісчыкаў PDF-версіі, будуць спецыяльныя бонусы.

Падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце ***belpressa.by***. Для гэтага трэба зайсці на сайт ***belpressa.by***, націснуць укладку ***«2021»*** і выбраць месяцы, на якія вы будзете афармляць падпіску.

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:
СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.
2.Через БАНК:
ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а
р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,
Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск
УНП 100961759, ОКПО 37381505
Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Кто из нас тупой – я или Гайдукевич?

В понедельник, еще до объявления официальных результатов выборов в российскую Государственную Думу, некоторые лидеры стран СНГ поспешили поздравить Владимира Путина с их итогами. А из Минска пришло соболезнование. Нет, не в связи с итогами выборов, а в связи со стрельбой в Пермском университете, где в результате инцидента есть и погибшие, и раненые. Но получилось символично.

Результат выборов в Госдуму для Беларуси как для самого близкого, если не единственного, союзника России, на мой взгляд, весьма печален. При голосовании по партийным спискам симпатии российских избирателей распределились приблизительно так: 50% – «Единая Россия», 20% – коммунисты, 10% – ЛДПР. То есть 80% отдали свои голоса тем, кто ностальгирует по СССР и жаждет восстановления российской империи в обновленном виде. Может ли нас, белорусов, радовать такой итог, если все эти люди так или иначе считают недоразумением и исторической несправедливостью существование суверенного белорусского государства?

Впрочем, тех, кто рад, долго искать не надо. В преддверии выборов в Госдуму белорусские коммунисты даже выступили со специальным обращением к российскому народу.

«Уважаемые товарищи!

В Республике Беларусь хорошо знают Коммунистическую партию Российской Федерации, которая активно выступает в поддержку союза братских народов, твердо и последовательно отстаивает принципы равенства, свободы и социальной справедливости… Программа КПРФ полностью созвучна с программными положениями Коммунистической партии Беларуси, поэтому мы разделяем изложенные в ней принципы и подходы, а также выражаем свою солидарную поддержку российским коммунистам… В этой связи мы призываем братский российский народ, всех патриотов поддержать кандидатов от Коммунистической партии Российской Федерации».

Они призывали... Они поздравляют Зюганова и российских коллег...

А ничего, что товарищ Зюганов свою политическую карьеру построил на обещании приложить все усилия к воссозданию чего-то наподобие СССР и открыто выступает за воссоединение Беларуси и России? А ничего, что в КПРФ товарищ Зюганов со своими имперскими взглядами еще не самый радикальный?..

Вполне естественно, что российские патриоты мечтают о великой русской империи от моря до моря и бредят присоединением новых земель. Вопрос в другом: патриоты какой страны собрались в белорусской компартии, если они призывали голосовать за Зюганова?.. Этот вопрос я задаю первому секретарю ЦК Компартии Беларуси Алексею Соколу, второму секретарю Игорю Карпенко, секретарям Сергею Сыранкову, Андрею Белякову, Андрею Цвирко, председателю Совета КПБ Алексею Камаю.

Другой пример. Лидер ЛДПБ Олег Гайдукевич на выборах в Госдуму был наблюдателем от Беларуси и вернулся домой чрезвычайно вдохновленным. Но понимает ли он, что произошло? Правильно ли толкует заявления своего российского коллеги Владимира Жириновского? Давыдько, Шпаковский, другие штатные толмачи официальной белорусской позиции, которым Жириновский говорил всё это прямо в лицо на программе у Соловьева, происходящее понимают?

А Жириновский говорил: «Вводить войска – это уже несовременно… В Беларуси будут комиссары, только называться будут по-другому – представители российского правительства. Или советники… И будет идти медленная трансформация всей экономики, государственных структур, идеологии, пропаганды… Вариант чисто экономический не проходит, потому что придет новая власть – и всё отменит...»

Главная идея, озвучиваемая лидером ЛДПР, который вновь будет заседать в Госдуме, – надо брать Беларусь под российское внешнее управление, заставить отработать каждый выделенный рубль и поставить в такие условия, чтобы сами просились в Россию.

И если Жириновский только говорит, то Путин – делает. При полной поддержке и одобрении партии, получившей по итогам выборов в Государственной Думе конституционное большинство голосов, – «Единой России».

Белорусское руководство уже просится в Россию или еще пытается сопротивляться – вопрос дискуссионный. Но не может быть дискуссий по поводу того, есть ли другой выход из ситуации. Конечно, есть. Нам достаточно провести новые президентские выборы – на этот раз открытые, честные, с международным наблюдением, – и политический кризис, поставивший страну в полную зависимость от башен Кремля, будет разрешен. Вот только это не нужно России, которая словила Беларусь на живца. Там, наоборот, заинтересованы в том, чтобы вся эта бодяга с конституционной реформой и западными санкциями у нас тянулась как можно дольше. Чтобы как можно дольше (а еще лучше – навсегда) Беларусь оставалась к Сибири передом, к миру – задом.

Они поощряют, прикармливают, подбадривают и затягивают Беларусь в кризис еще глубже. А мы ведемся.

В этой связи я вновь вернусь к вопросу о патриотизме.

Тех, кто призывает к новым выборам, в Беларуси записывают в экстремисты. Кто за сохранение нынешней ситуации – в патриоты. Патриот Гайдукевич, насмотревшись выборов в Госдуму, договорился до того, что и референдум по Конституции, и следующие выборы нам надо провести, ни на кого не обращая внимания. Главное, чтобы признала Россия. Вот теперь сижу и думаю: все-таки кто из нас тупой – я или Гайдукевич?

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## «Не хапае яшчэ 300 тысяч рублёў…»

*Пробашч парафіі ў Будславе ксёндз **Дзмітрый Дубовік** распавёў «Народнай Волі» пра тое, як ідзе аднаўленне касцёла.*



Нагадаем, што раніцай 11 мая загарэўся касцёл у Будславе, у якім знаходзіцца адна з найважнейшых святынь Беларусі – абраз Маці Божай Будслаўскай. Пажар удалося патушыць, але галоўнае яго наступства – выгараў і абваліўся дах.

Ужо ў дзень пажару распачаўся збор сродкаў на аднаўленне касцёла, і ахвяраванні працягваюць паступаць да гэтага часу.

*– На сёння (23 верасня) ужо накрылі амаль 60 працэнтаў даху,* – кажа ксёндз Дзмітрый Дубовік. *– Працы вядуцца не толькі наверсе, але і ўнутры касцёла. Работы працягнуцца, пакуль будзе дазваляць надвор'е. Але дах рабочыя дакладна накрыюць да наступлення халадоў.*

На гэты момант грамадскасць назбірала на аднаўленне даху прыкладна 1.045.000 рублёў.

*– Гэтага недастаткова,* – адзначае Дзмітрый Дубовік. *– Не хапае яшчэ прыкладна 300 тысяч рублёў.*

Прычыны пажару пакуль названы не былі. Паводле слоў святара, адпаведныя органы, якія займаюцца расследаваннем, ніякай інфармацыі з гэтай нагоды ім не давалі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПОГЛЯД

## Трэба садзіцца за «круглы стол», як гэта было 30 з лішнім гадоў таму ў Польшчы

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Народнай Волі»!

У нумары за 17 верасня прачытаў артыкул Святланы Калінкінай «Разделённые». І, на жаль, давядзіцца канстатаваць, што тэзы аўтаркі цалкам адпавядаюць нашай сённяшняй рэчаіснасці.

Па-першае, відавочна, што ні пра якое адзінства ў сітуацыі, якая мае месца ў цяперашняй Беларусі, казаць не даводзіцца. Мы бачым вялізную прорву паміж вузкай групоўкай, якая трымае ўладу ў краіне і гатова не выпускаць яе са сваіх рук да апошняга, і шырокім грамадствам, якое саспела да перамен, хоча аказаць станоўчае ўздзеянне на лёс дзяржавы і свой асабісты. Яшчэ летась Лукашэнка шмат і вельмі натхнёна казаў пра тое, як нам патрэбна агульнаграмадзянская еднасць, заклікаў забыць сваркі і пачаць з чыстага аркуша, прапаноўваў нейкія дыялогавыя пляцоўкі, у прыватнасці для абмеркавання новага праекта Канстытуцыі. Але амаль за трыццаць гадоў кіравання мы добра вывучылі, чаго вартыя палымяныя прамовы, абяцанні высокіх службовых асоб. Нічога не вартыя. Тое заканамерна адбылося і зараз. Калі Лукашэнка лічыў, што пасля шквалу рэпрэсій, якія абрынуліся на, бадай, усю незалежную грамадзянскую супольнасць Беларусі, у краіне наступіць лад ды згода, то відавочна тое, што ён не меў рацыі.

Па-другое, выклікае вялізныя пытанні сама дата 17 верасня. Прынамсі ў мяне. Так, мы маем факт яднання заходніх і ўсходніх беларускіх земляў, і гэта быццам бы добрая падзея. Аднак ці апраўдвае высакародная мэта ганебныя сродкі? Тут, дарэчы, прасочваецца прамая аналогія з Крымам. Расіяне вярнулі сабе паўвостраў, і большасць з іх ацэньвае гэты факт пазітыўна, цалкам ігнаруючы відавочнае парушэнне нормаў міжнароднага права ды простай чалавечай маралі, а таксама тое, што адносіны паміж Расіяй і Украінай цяпер сапсаваны надоўга, калі не назаўсёды.

17 верасня ў гэтым кантэксце сімвалізуе хаўрус Савецкага Саюза з нацысцкай Нямеччынай, і святкаваць гэту дату – значыць, апроч іншага, яшчэ і абражаць палякаў, якія не заваёўвалі заходнебеларускія землі, а ім падарылі іх бальшавікі на чале з Леніным. Хаця за апошні год адносіны з палякамі сапсаваны настолькі, што далей ужо асабліва няма куды. Як кажуць расіяне, «сгорел сарай – гори и хата».

Давайце адкрыта скажам: Беларусь сёння выразна падзелена. Ёсць, я лічу, большасць, якая хоча жыць ў новай, свабоднай Беларусі, і ёсць вузкае кола людзей, якія ўжо на працягу доўгага часу ўтрымліваюць уладу і нічога не хочуць мяняць. Яны не разумеюць, што за апошнія тры дзесяцігоддзі Беларусь стала іншай і народ стаў іншым. А вось улада якой была, такой і засталася. Якое тут можа быць адзінства?

Ягонямa, і дасягнуць яго будзе цяжка. Але любы шлях пачынаецца з першага кроку. Зрабіць яго мусіць Лукашэнка. І пачынаць трэба з таго, каб спыніць «паляванне на вядзьмарак», выпусціць усіх палітвязняў, закрыць усе ангажаваныя крымінальныя справы. Папрасіць прабачэння ва ўсіх, хто так ці інакш пацярпеў ад карнай сістэмы. А потым трэба садзіцца за «круглы стол», як гэта было 30 з лішнім гадоў таму ў Польшчы, і дамаўляцца пра мірны трансфер улады. Шмат хто скажа: гэта фантастыка. Магчыма. Аднак іншага варыянта дасягнення адзінства я не бачу. І, я лічу, менавіта гэты сцэнарый быў бы для ўсіх нас найлепшым.

З павагай –

**Дзмітрый КУРАТНІК**, сталы чытач «Народнай Волі».

РЕПРЕССИИ

# 25 суток ареста Оксаны Цыбиной

*С Оксаной Цыбиной мы познакомились на «сутках» – сидели в одной камере на Окрестина. По профессии Оксана главный бухгалтер. Кроме этого, девушка увлекается тайским боксом, танцами и любит путешествовать. Периодически она устраивала для нас лекции на тему формирования заработной платы в Беларуси и влияния налогов на нее, показывала, как становиться в боксерскую стойку, учила дыхательной гимнастике и движениям аргентинского танго. Кто мог предположить, через что пришлось пройти Оксане Цыбиной до того, как она попала к нам в камеру!.. Выйдя на волю, девушка дала интервью «Народной Воле».*

**– Оксана, как тебя задержали?**

– В тот день я возвращалась из санатория «Озерный». Приехала домой, зашла в лифт с вещами, а за мной следом – двое мужчин в гражданском. Я спросила, на какой этаж они едут, но внятного ответа не получила. Увидела, что нажали девятый, и удивилась: ведь это мой этаж. Поинтересовалась у них, к кому идут. Ответили, что к соседям. А когда мы вышли из лифта, они показали постановление прокурора на обыск моей квартиры. И один из сотрудников издали предъявил удостоверение.

**– Как проходил обыск?**

– Препятствовать обыску я не стала, потому что у них было постановление. Открыла квартиру, мы зашли, и ключи они у меня сразу забрали. Один из сотрудников куда-то ушел и позже привел еще трех человек в гражданском. Никто из них не представлялся. Я спокойно сказала: квартира в вашем распоряжении, ищите, что вас интересует. Двое сотрудников параллельно начали меня опрашивать, оказывая сильное психологическое давление. Грозились утопить в аквариуме мою кошку. Спрашивали, интересуюсь ли я политикой.

**– А с чего вдруг кошку утопить хотели?**

– Не знаю, вела я себя абсолютно спокойно и никоим образом их не провоцировала. Думаю, что они просто так угрожали.

**– Что изъяли из квартиры?**

– У меня изъяли компьютер, телефоны, все рабочие флешки, деньги из кошелька и драгоценности. Попросили пароль от телефона, я отказалась его сказать, потому что знаю, что сотрудники правоохранительных органов могут взять мой телефон и начать писать от моего имени родным и близким людям. По этой причине я не согласилась дать пароль.

Дальше мне сказали, что нужно будет проехать во Фрунзенское РУВД. Я попросила разрешение взять предметы личной гигиены. В ответ на это мне сказали: «Поедешь голая». Тогда я поинтересовалась, снимать ли мне штаны, но один из сотрудников милиции разрешил мне ехать в них. Пока мы выходили, успела натянуть на себя кофту, но потом мне ее сказали снять и ехать в одной майке. Даже очки не разрешили взять с собой, при том что у меня проблемы со зрением.

Из того, что мне удалось взять, – маленькая бутылка воды. Но ее потом в РУВД сотрудник милиции демонстративно выбросил в корзину. Около суток я находилась без воды. Но это не страшно. Я больше переживала за своих домашних животных – кошку, собаку и рыбок. Не знала, кто будет за ними следить, ведь живу одна… При этом, когда мы уже уходили, я попыталась оставить дверь открытой, чтобы кто-то из соседей увидел, но сотрудник Фрунзенского РУВД вернулся, взял ключи и закрыл квартиру.

**– Помню, что ты потом в камере рассказывала, что за животными ухаживали родные, друзья и соседи…**

– Да, спасибо им за это! Повезло мне с моим окружением. Они нашли возможность попасть в квартиру и не дать животным погибнуть.

**– Что происходило в самом РУВД?**

– Начался допрос, который вели трое сотрудников в гражданском. Они наперебой задавали вопросы и говорили, что я волонтер, который координирует действия других волонтеров. И при этом просили пароль от телефона. Но я по-прежнему отказывалась его давать. После этого один из сотрудников взял электрошокер, зашел из-за спины и приставил его к моему затылку. Я сжала зубы, кулаки, думала, что сейчас замертво упаду. Потом он приставил электрошокер мне к переносице, затем к уху. Разряд был несильный, но я испугалась, дернулась. В этот момент кто-то из сотрудников сказал, что электрошокер не работает, тогда он положил его на место. И взял степлер. Степлером он сжал мне нос. Сказал, что сейчас его мне пробьет. Но не сделал этого. Сел за стол и уронил карандаш.

**– А в итоге по какой статье тебя судили?**

– Вот когда оформляли документы, сотрудник Фрунзенского РУВД, который уронил карандаш, сказал дописать мне статью 19.1 – «хулиганство». Я возразила. На что мне сотрудник Фрунзенского РУВД ответил, что был бы человек, а статья всегда найдется. Так у меня в протоколе появилась вторая статья.

**– А первая какая?**

– 24.3 – неповиновение. Написали, что я препятствовала входу сотрудников милиции в квартиру и что одного из них я выталкивала из тамбура. Такого, конечно, не было. При обыске велась видеосъемка, и мой адвокат заявлял ходатайство о предоставлении записи. Ему ответили, что видеосъемка не производилась.

**– В РУВД где тебя содержали?**

– Меня поместили в «обезьянник» – так он называется в народе. Всю ночь я была там одна, а ближе к утру ко мне подселили женщину без определенного места жительства. Около 10 утра меня уже везли в стакане автозака на Окрестина… До этого выдали одну маску. Кстати, все 25 суток я была в ней. Она мне и ночной повязкой служила – защищала глаза от света ночью.

**– Сначала же тебя поместили в изолятор временного содержания?**

– Да, а потом, после суда, отправили в ЦИП на Окрестина. В ИВС было очень холодно. А я еще и в одной майке…

**– В суде ты говорила о том, что происходило в РУВД?**

– Да, я сказала об электрошокере и степлере. Судья спросила, есть ли у меня какие-то синяки, побои. Этого не было, поэтому мое заявление было проигнорировано.

Вину я не признала. Из тамбура я никого не выталкивала и карандаши в РУВД не разбрасывала. Адвокат настаивал, чтобы к делу были приобщены видеозаписи из квартиры и из кабинета, где меня допрашивали. Но ходатайство удовлетворено не было под предлогом того, что запись не велась.

Также мой адвокат попросил вызвать в суд в качестве свидетелей сотрудников милиции, которые проводили у меня обыск. Был заслушан один из них. И он по-прежнему утверждал, что я его выталкивала из тамбура.

**– Помню ты говорила, что какую-то видеозапись всё же на суде посмотрели…**

– Да, из нашего товарищества собственников адвокат затребовал видеозапись. На записи видно, что в дом заходили двое сотрудников милиции, затем один вернулся и привел еще троих, выводили меня уже пятеро. А на суде свидетель утверждал, что у меня в квартире находился только он и еще один сотрудник милиции. Суд эту видеозапись во внимание не принял. Расхождение по времени тоже имело место: в протоколе указано время задержания 18.10, а по видеозаписи видно, что время задержания 17.40.

**– Подавала ли ты жалобу?**

– Адвокат подал апелляцию. Приговор оставили без изменения.

**– Арестованное имущество вернули?**

– Всё вернули в целости и сохранности.

**– Как оказалось, камера у нас была «ковидная». Как себя чувствуешь?**

– Кашель у меня начался еще в карцере. На утреннем обходе мы говорили об этом врачу, она дала пару таблеток от кашля, но они не помогли. Когда я уже дома принимала ванну, обнаружили сыпь на ягодицах. На следующий день пошла к врачу. Она у меня появилась из-за антисанитарных условий, в душ же нас не водили. Сделала еще ПЦР-тест – он был отрицательный. Тогда сдала на антитела – оказалось, что ковидом переболела и у меня начался восстановительный процесс.

Когда вышла, думала, что на солнце и свежем воздухе мне станет лучше, но появилась дикая слабость, и продолжался очень сильный кашель.

**– У меня тоже уже антитела.**

– Главное, что мы переболели в легкой форме.

**– Я же освободилась раньше тебя. Что происходило после?**

– Ничего такого не было. Утром на шмоне только услышали яркую речь охранника о том, что если мы днем будем лежать или спать, то он дождется грозы, даст нам щетки и мы пойдем мыть внутренний дворик.

А ты Аллу Ильиничну застала?

**– Нет, но я наслышана о ней.**

– Людей без определенного места жительства охранники на Окрестина называют котиками. Вот такого котика – Аллу Ильиничну – нам и подселили. Ее на Окрестина все уже давно знают. Кстати, на следующий день, когда мы делали зарядку, она тоже присоединилась. В тот момент я подумала, что если таких людей поместить в другую среду обитания, провести с ними элементарную реабилитацию, то они могут быть вполне полезными для общества.

**– Алла Ильинична теперь тоже в политике?**

– Нет, она сказала, что далека от этого. Ее только садят к политическим.

**– После всего произошедшего собираешься уезжать?**

– Думала об этом, но решила, что остаюсь. Я коренная белоруска. Я люблю свою страну такой, какая она есть. Почему я, гражданка, которая любит свою родину и которая хочет, чтобы она была свободной и независимой, должна бежать из нее? Я считаю это неправильным.

Я увидела на Окрестина, как белорусы держатся вместе и поддерживают друг друга, даже несмотря на условия, которые создаются специально, чтобы их сломать. А они не ломаются. Я горжусь тем, что я белоруска!

**Глафира ЖУК.**





Народная Воля

Выдавецкае прыватнае унітарнае прадпрыемства
РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
220030, г. Мінск, вул. Энгельса, д. 34-А
р/р BY08PJCB30120065351000000933,
код PJCBBY2X
ЦБУ 113 "Приорбанк" ААТ
УНП 100961759

21 ліпеня 2021 г. № 01-13/40
на № ______ ад "___" __________ 2021 г.

**Начальнику
Фрунзенского РУВД г.Минска
полковнику милиции
Полулеху Александру
Владимировичу**

Уважаемый Александр Владимирович!

Гражданка **Оксана Цыбина** была задержана сотрудниками Фрунзенского РУВД 05.06.2021 года. По словам Цыбиной, ее допрашивали в кабинете №17.

В интервью журналисту «Народной Воли» она рассказывает: «*Во Фрунзенском РУВД начался допрос, который вели трое сотрудников в гражданском. Они наперебой задавали вопросы и говорили, что я волонтер, который координирует действия других волонтеров. И при этом просили пароль от телефона. После этого один из сотрудников взял электрошокер, зашел из-за спины и приставил к моему затылку. Я сжала зубы, кулаки, думала, что сейчас замертво упаду. Потом он приставил электрошокер мне к переносице, затем к уху. Разряд был несильный, но я испугалась, дернулась. В этот момент кто-то из сотрудников сказал, что электрошокер не работает, тогда он положил его на место. И взял степлер. Степлером он сжал мне нос. Сказал, что сейчас его мне пробьет. Но на деле этого не сделал. Сел за стол и уронил карандаш.*

*...Когда оформляли документы, сотрудник Фрунзенского РУВД, который уронил карандаш, сказал своему коллеге дописать мне статью 19.1 – хулиганство. Я возразила. На что мне сотрудник Фрунзенского РУВД ответил, что был бы человек, а статья всегда найдется. Так у меня в протоколе появилась вторая статья*».

«Народная Воля» хотела бы подготовить максимально беспристрастный и объективный материал, поэтому просим Вас, Александр Владимирович, прокомментировать вышеприведенные слова Оксаны Цыбиной.

**Заместитель
главного редактора
газеты «Народная Воля»** Марина КОКТЫШ.

## ОТ РЕДАКЦИИ

*После интервью с Оксаной Цыбиной редакция «Народной Воли» направила обращение на электронную почту РУВД Фрунзенского района с просьбой прокомментировать приведенные выше слова, чтобы подготовить максимально объективный и беспристрастный материал. Однако спустя более чем два месяца ответа на него нет.*

ПАЛІТКУХНЯ

# «Мы атрымалі папярэджанне ад Мінюста…»

*Сустаршыня кампаніі «Гавары праўду» **Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ** пракаментаваў «Народнай Волі» рашэнне Міністэрства юстыцыі аб ліквідацыі арганізацыі. Суд па іску аб ліквідацыі «Гавары праўду» павінен адбыцца на пачатку кастрычніка.*



– Мы атрымалі адно папярэджанне ад Міністэрства юстыцыі і прыступілі да яго ўстаранення, але не паспелі – атрымалі ліст аб тым, што пададзены іск аб ліквідацыі, – *распавядае палітык.* – Мы лічым, што гэта абсалютна палітычнае рашэнне, бо выяўленае парушэнне ніякім чынам не замінае дзейнасці арганізацыі і даволі лёгка выпраўляецца.

Сем гадоў мы працавалі без рэгістрацыі, пры гэтым кожны год падаючы дакументы на рэгістрацыю. Чатыры гады пражылі з афіцыйнай рэгістрацыяй. Зараз, відаць, вяртаемся да таго, што было.

Мы да апошняга будзем адстойваць нашу арганізацыю. Усё, што мы рабілі, было адкрыта, сумленна і на карысць Беларусі. Але, гледзячы, што адбываецца навокал, ні на што не спадзяёмся.

*Некаторы час таму Андрэй Дзмітрыеў заявіў пра намер стварыць палітычную партыю.*

– Мы сфарміравалі аргкамітэт, цяпер набіраем неабходную колькасць сябраў – нам патрэбна мінімум 1000 чалавек, – *гаворыць Дзмітрыеў пра свае планы ва ўмовах новай палітычнай рэчаіснасці.* – І мы па-ранейшаму маем намер правесці з'езд, як толькі будзем да гэтага поўнасцю гатовы. Будзем падаваць дакументы на рэгістрацыю, рыхтавацца да выбараў, калі б яны ні адбыліся.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Як зазвінела шкло, дык страшна усім было

Падчас вулічных пратэстаў два мінчукі пілі піва. Адзін з іх прапанаваў прыяцелю: «Кінеш келіх у міліцэйскі аўтобус – падорым табе кватэру». І той кінуў. На судзе, які адбыўся нядаўна, камандзір амапаўцаў сказаў, што ад звону шкла ён атрымаў стрэс. Кожнаму байцу суд «выпісаў» 1000 рублёў маральнай кампенсацыі, а мінчука на два гады накіраваў у калонію.

Кішэла вуліца бурліва –
Там шмат старых і маладых.
Сябры рашылі выпіць піва –
Сасмяглі, трэба перадых.
Да блізкае «піўное кропкі»
Яны прыджгалі ўсёй гурбой,
Завёўшы дыспут нетаропкі,
Смакталі з келіхаў напой.
Быў «сабантуй» іх годна-чынны,
Размова злагадна цякла.
І хтось звярнуўся да мужчыны,
Што ў хеўры з нейкае прычыны
Не меў уласнага жытла:
– Аўтобус бачыш? Келіх гэты
Туды шпурнуць ці можаш ты,
Як на спаборніцтвах атлеты?
Там акурат сядзяць «мянты».
Яны шалеюць тут не ў меру,
Кагосьці гоняць да турмы…
Шпурнеш – дык будзеш мець кватэру,
Яе табе падорым мы.
Мужык, напэўна, тыя словы
Сказаў жартоўна, не ўсур'ёз,
А чалавек ад прапановы
Пайшоў, як кажуць, уразнос.
Відаць, яму карцела надта
Займець над галавою дах.
І паляцеў, нібы граната,
Той келіх і ў аўтобус – бах!
– Герой! Давай пацісnем лапу! –
Крычалі ўзрушана сябры.
І сапраўды байцы АМАПу
Былі аўтобуса ўнутры.
Відаць, падумалі спачатку,
Што прыляцеў якісь снарад,
Таму ў ахоўнікаў парадку
(А іх было не надта шмат)
Узнікла паніка, а потым,
Як зазвінела раптам шкло,
Дык кожны з іх пакрыўся потам,
Бо ім яшчэ страшней было.
Найбольшы страх – у камандзіра:
Ад поту, бедны, мокры спрэс.
І вельмі доўга, што не дзіва,
Ён адчуваў глыбокі стрэс.
За тое, што байцы-служакі
Нямала зведалі пакут
Падчас «бязлітаснай атакі»,
Ім грошай жмут падкінуў суд.
А што ж дзяцюк, што кінуў келіх?
Суд выдаў «бонус» і яму:
Сядзецьме, як манах у келлі, –
Яго справадзілі ў турму.
Што ні кажы – крутая мера…
Хоць ёсць і плюс у гэтым свой:
Турма – не ўласная кватэра,
Ды ўсё-ткі дах над галавой…

***

І ў аўтазак шпурляць прадметы
Не варта нават смаркачу.
Дык апраўдаць учынак гэты
Я не магу і не хачу.
А ў чым жа сэнс маёй маралі?
Калі, пачуўшы звон шкляны,
Байцы трывогу адчувалі,
Як атрымалі стрэс яны
І кожны потам быў пакрыты,
Дык у АМАП ісці не след,
Бо акалеюць, як бандыты
Пакажуць нож ці пісталет.

### Сапраўдны адпачынак

Адпачынак сапраўдны – калі
Аддаеш (і шчаслівы без меры!)
На панамку і шорты рублі –
Не на клей, ламінат і шпалеры.

### «Хітры звер»

Паляўнічы:
– Хітры звер – ліса,
Я пераканаўся ў гэтым сам.
Вечарэла,
І сцямнела ўжо.
Крочыў я дахаты, і ружжо
Як заўжды, было ў мяне ў руках.
І бяжыць ліса!
З ружжа я – бах!
Падышоў і ледзьве не заплакаў:
Не ліса ляжыць, а мой сабака…

АДКРЫТЫ ЛІСТ

# Спадар Цуран, не трымайце Стэфанію Станюту за шлагбаумам

Яшчэ 23 ліпеня ў «Народнай Волі» быў надрукаваны артыкул **Алены Малочка** пад назвай **«Станюта или Энгельс: кто более белорусской истории ценен?»**. У адпаведнасці з заканадаўствам матэрыял рэдакцыя накіравала на рэагаванне ў Мінскі гарвыканкам. Атрымалі адказ за подпісам намесніка старшыні вышэйшай сталічнай улады **Арцёма Цурана**. Пахвальна, што тэкст ад першага да апошняга радка на беларускай мове. Але вось што тычыцца яго зместу, то ўзнікае шэраг пытанняў. Ствараецца ўражанне, што спадар Цуран калі і прачытаў артыкул Алены Малочка, то, мабыць, па дыяганалі, а то, магчыма, сам яго і ў вочы не бачыў, а адказ на подпіс падсунулі яму падначаленыя, якія наогул не ўнiклі ў сэнс праблемы. Таму «Народная Воля» вымушана ў чарговы раз патлумачыць, у чым яе сутнасць.

Нагадаем: адбылася недарэчная сітуацыя з ўслаўленнем памяці такой легендарнай нацыянальнай асобы, як **Стэфанія Станюта**. Цяжка сказаць, чым кіраваліся члены гарадской тапанімічнай камісіі, калі прымалі рашэнне аб наданні яе імя вуліцы, забудоўшчыкамі якой сталі людзі не проста багатыя, а алігархічнага складу. А такія, як вядома, любяць жыць за высокай непразрыстай агароджай, а каб па вуліцы ніхто з пабочных не мог праехаць, пры ўездзе ўстанаўліваюцца шлагбаумы. Менавіта так і зрабілі тыя, каму ўлады невядома за якія заслугі выдзелілі надзелы ў лічаных метрах ад Цнянскага вадасховішча. Кажуць, усе яны маюць дачыненне да кампаніі **«Дана Мол»**. Што ім да нашай славутай Стэфаніі Міхайлаўны Станюты, сімвала нацыянальнай культуры для мільёнаў беларусаў?! Вуліцу, якой сталічныя ўлады надалі яе светлае імя, вось гэтыя топ-менеджары фактычна прыватызавалі. Як толькі з'явіліся на ўчастках гмахі-катэджы, іх уладальнікі тут жа паклапаціліся пра аўтаматычны шлагбаум. У кожнага свой пульт, націснуў кнопачку – і паехаў. А для ўсіх астатніх уезд забаронены. Нават для **Меліціны Станюты** – праўнучкі вялікай актрысы. Неяк яе, наследніцу па прамой радаслоўнай лініі, не пусцілі на вуліцу імя прабабулі без пропуска, без званка і ўзгаднення з высокімі асобамі той жа кампаніі «Дана Мол». Невыпадкова Алена Малочка ў вышэйзгаданым артыкуле напісала: *«Беларусы, якія ўвесь XX век па крупіцах збіралі сваю ідэнтычнасць, якія і цяпер прадзіраюцца да сваіх вытокаў праз буралом імперскай ідэалогіі і асабістых забабонаў, і тут рантам ізноў павінны даказваць сваё спрадвечнае права на нацыянальны здабытак – на імя Стэфаніі Станюты, дарагое для любой жывой беларускай душы».*

Што і казаць, тое, што замест увекавечвання памяці вялікай актрысы яе імя фактычна схавалі за моцным шлагбаумам, не можа не кранаць тонкія струны нацыянальнага гонару. І каму, як не намесніку старшыні Мінскага гарвыканкама А.М.Цурану, не падумаць, як выправіць непрыгожую сітуацыю. У артыкуле Алены Малочка была падказка: святое для беларусаў імя Стэфаніі Міхайлаўны Станюты павінна быць перанесена з прыватызаванай алігархамі вуліцы, якая, дарэчы, знаходзіцца ледзь не на выселках, у гістарычны цэнтр сталіцы. І рэдакцыя разлічвала, што менавіта з гэтых пазіцый чыноўнікі гарвыканкама і будуць разглядаць публікацыю ў «Народнай Волі». На жаль, адказ спадара Цурана звёўся галоўным чынам да таго, што *«любяя перайменаванні вуліц ствараюць нязручнасці жыхарам і гасцям горада, патрабуюць унясення змяненняў у элементы візуальнага арыентавання, рэгістрацыйныя і іншыя дакументы, на што неабходны значныя фінансавыя затраты»*. Скажыце, хто са сталічных гораданачальнікаў звярнуў увагу на «нязручнасці», калі ўмомант перайменоўваліся цэнтральныя праспекты Мінска?

Рэдакцыя чакала зусім іншага ліста ад чыноўнікаў Мінскага гарвыканкама. Нам здавалася, ля руля сталіцы стаяць прагрэсіўныя спецыялісты, і хто, як не яны, павінны адчуваць, якая сапраўды недарэчная сітуацыя склалася з імем Стэфаніі Станюты – легендарная актрыса апынулася за шлагбаумам ды яшчэ і з аховай (?!). Яна вартая ўдзячнай памяці беларусаў. І тое, што зараз вуліца, якой нададзена яе імя, за шлагбаумам, – гэта сапраўдны грамадзянскі боль. Таму «Народная Воля» накіроўвае чарговы ліст непасрэдна таму высокапастаўленаму сталічнаму чыноўніку, які, паўтараем, магчыма, нават не прачытаў артыкул Алены Малочка, а падмахнуў адказ рэдакцыі, які падрыхтавалі падначаленыя без усялякай адказнасці. **Спадар Цуран, прыслухайцеся да голасу шырокай грамадскасці: Мінгарвыканкам у свой час дапусціў грубую памылку і павінен яе выправіць. Безумоўна: найдаражэйшая для беларусаў Стэфанія Станюта вартая нашай найлепшай памяці!**

А што тычыцца перайменавання многіх сталічных вуліц, якія дагэтуль носяць назвы ў гонар тых, хто хацеў перакуліць увесь белы свет, то гэта зусім іншая гаворка.

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

АКЦЫЯ

# Чаму чыноўнікі не хочуць адмаўляцца ад машын?

*Карэспандэнт «Народнай Волі» пацікавіўся, як мінчане адзначалі на гэтым тыдні Сусветны дзень без аўтамабіля.*




Такая акцыя прайшла у Мінску ўжо ў чатырнаццаты раз. Яе ідэя заключаецца ў тым, каб папулярызаваць экалагічны транспарт і нагадаць людзям пра важнасць экалагічнай бяспекі ва ўмовах мегаполіса.

Паводле традыцыі 22 верасня вадзіцелям, якія вырашылі на час адмовіцца ад аўтамабіляў, дазвалялася ездзіць без аплаты ў гарадскім транспарце, уключаючы метро. Кантралёрам можна было проста прад'явіць пасведчанне вадзіцеля і пасведчанне аб рэгістрацыі транспартнага сродку.

…З самага ранку да Адміністрацыі прэзідэнта пад'язджалі машыны, прывозячы на працу чыноўнікаў. Відаць, хаця б на дзень адмовіцца ад аўто для многіх вялізная праблема. Не выключана, што кагосьці і наогул не цешыла перспектыва «паходу ў народ», бо людзі маглі пазнаць і задаць, мякка кажучы, нязручныя пытанні. Таму лепш ужо на аўто з асабістым вадзіцелем – ледзь не да самых прыступак Адміністрацыі. Хаця, магчыма, хтосьці і аддаў перавагу метро альбо маршрутцы.

Ля Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, якое месціцца практычна ў цэнтры Мінска, на аўтастаянках і ля тратуараў – машыну не ўціснуць. Праўда, у гэтым жа будынку знаходзіцца яшчэ Міністэрства юстыцыі, Дэпартамент па архівах і справаводстве, Рэспубліканская калегія адвакатаў, рэдакцыя часопіса «Юстыцыя Беларусі», а таксама кафэ «Август», таму не разбярэшся, то прыехаў на аўтамабілі на працу ахоўнік навакольнага асяроддзя або наведвальнік кафэ.

А вось у метро ў гэты дзень і насамрэч многія ездзілі бясплатна, пакінуўшы аўтамабіль дома.

*– За шэсць гадзін чалавек сто паказалі вадзіцельскае пасведчанне,* – распавёў мне кантралёр на станцыі «Кунцаўшчына». *– І нават без пасведчання прапускаем – пасля прад'яўлення тэхпашпарта.*

Затое на станцыі метро «Купалаўская», дзе якраз і знаходзіцца выхад да Адміністрацыі прэзідэнта, такіх пакаэчыкаў пахваліцца не маглі.

*– Практычна ніхто не скарыстаўся магчымасцю бясплатнага праезду,* – коратка паведамілі кантралёры.

«Народная Воля» вырашыла пацікавіцца ў некаторых дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, ці паўдзельнічалі яны ў акцыі ў падтрымку экалогіі.

*– Я ў гэты дзень ад аўтамабіля не адмовіўся,* – шчыра прызнаўся **Алег Гайдукевіч**. *– Нармальна стаўлюся да гэтай акцыі, але не люблю маніць. Я не меў магчымасці адмовіцца ад аўто. Жыву за горадам, і патрэбна было шмат перамяшчацца. І дзяцей адвезці ў школу, і на запланаваныя сустрэчы паспець. На веласіпедзе нязручна, тым больш у дождж.*

*Але, безумоўна, я за тое, каб у буйных мегаполісах развіваліся электрамабілі. Лічу, што за гэтым будучыня. Адзінае, што мы павінны думаць, як іх зрабіць больш даступнымі для людзей, бо сёння большасць сабе такую дарагую раскошу дазволіць не можа.*

*Таму Дзень без аўтамабіля – гэта добрае пачынанне, але, скажам так, недасканалае. Свет пабудаваны так, што людзі не змогуць адмовіцца ад аўтамабіляў у бліжэйшы час. Гэта ўтопія.*

І **Андрэй Савіных** не ўтойваў, што ў гэты дзень ездзіў за працу на ўласнай машыне.

*– Я ўвогуле ад вас упершыню пачуў, што 22 верасня праводзілася такая акцыя,* – здзівіўся дэпутат. *– За справамі, відаць, прапусціў гэтую інфармацыю.*

*Але, на мой погляд, разавыя акцыі не з'яўляюцца рашэннем праблемы. Рашэннем павінна становіцца планамерная і прадуманая палітыка, якая была б накіравана на адмену індывідуальнага транспарту і паступовы пераход на грамадскі, які ў ідэале павінен працаваць на электрычнасці. Вось такую работу я, безумоўна, падтрымліваю.*

А вось дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Ігар МАРТЫНАЎ** адмовіўся ў Дзень без аўтамабіля ад машыны, зараз ён знаходзіцца «ў адпачынку ў вёсцы».

*– Падтрымліваю акцыю, бо ў нас некаторыя на аўтамабілі ездзяць у магазін, да якога прайсці сто метраў,* – кажа мой суразмоўца. *– Дык давайце хаця б у такі дзень адмовімся ад аўто і задумаемся пра экалогію. Лепш прайсці пехатой і падыхаць паветрам.*

**– Але, бачу, што многія чыноўнікі нават у гэты дзень не вельмі жадаюць «падыхаць паветрам»…**

*– Вось вы любіце глядзець у першую чаргу на чыноўнікаў. А вы апусціцеся на зямлю і паглядзіце, што сёння ў нас прости ізэнік ці дробны бізнесмен едзе на працу на такой крутой машыне, што чыноўніку і не снілася. А вы на гэта ўвагі не звяртаеце…*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ХОЧУ СКАЗАТЬ!

# Когда граница превратилась в проходной двор…

Я имею высшее образование. Много читаю. Хорошо владею компьютером. Люблю знакомиться с разной информацией, анализировать факты, сопоставлять их.

На что обратил внимание в последнее время? На то, как официальной пропагандой подается ситуация на границах Беларуси с Литвой, Польшей и Латвией. Акцент делается на инцидентах с нелегальными мигрантами из Афганистана, Ирака, Сирии и других стран. Мол, какие бездушные пограничники соседних государств – ежесуточно выталкивают на нашу территорию десятки, а то и сотни тех, кто желает попасть в Евросоюз. А что же молчат белорусские пограничники? Ведь это же они фактически закрывают глаза, когда мигранты валом валят через наши кордоны. Раньше высокие чиновники безустанно твердили, что граница у нас на замке, а что же теперь мы видим на самом деле?

Чтобы создать для соседних стран массу проблем, нашу границу превратили, образно говоря, в проходной двор. Нет, своих, нарушителей с белорусским паспортом, задерживают при первом их незаконном шаге, а вот тех же иракцев, решивших сомнительным путем переселиться в цивилизованные европейские страны, вроде совсем не замечают.

Я считаю, что политика наших властей в части предоставления «зеленой улицы» для мигрантов абсолютно неверная и проигрышная. Граница действительно должна быть на замке, и нарушителей как с собственной стороны, так и из тех далеких стран, откуда они прибывают, нужно и близко не подпускать к «вспаханной полосе».

**P.S.** *Вот уже который день официальная пропаганда вовсю трубит о том, что польские пограничники насильственно возвращают мигрантов на белорусскую сторону. А почему наши пограничники пропустили их через свои кордоны?*

**Альберт КОРЕНЕВСКИЙ.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

Валянцін ЖДАНКО

# НЕСАПРАЎДНАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ: выжыць у краіне, дзе пануе страх

*Гэты страх нібы разліты ў паветры, якім дыхаюць сёння беларусы. Ён адчуваецца ледзь не ў кожнай размове і са знаёмым, і з малазнаёмым, і з зусім не знаёмым чалавекам.*



Здавалася б, яшчэ ўчора дастаткова разняволеныя і свабодныя людзі вельмі хутка закрыліся, адгарадзіліся і амаль замоўклі. Вось на мінскай вуліцы рэпарцёр з мікрафонам спрабуе разгаварыць выпадковых мінакоў. Яшчэ год таму гэта зусім не было праблемай. Сёння ж, пачуўшы «палітычнае» пытанне (нават бяскрыўднае), ледзь не кожны затуляе вусны рукамі і панічна адштурхоўвае ад сябе мікрафон.

Па-іншаму не можа быць у краіне, дзе трапіць у турму можна за неасцярожна сказанае слова, за пакінуты ў сацсетках каментарый, за «не той» лайк пад чыймсьці допісам. Гэты страх занявольвае, падзяляе, скоўвае, адчужае нават калісьці блізкіх людзей. Як з гэтым жыць і як выжыць?

### Не ацанілі, не адстаялі на плошчах і ў «ланцугах салідарнасці»...

У гэтыя дні, тыдні і месяцы якраз спаўняецца 30 гадоў з часу многіх адметных падзей, якія адбываліся ў 1991-м на абшары былога СССР. Пасля правалу ГКЧП былыя савецкія рэспублікі адна за адной абвяшчалі незалежнасць. Абвалілася калісьці ўсёмагутная КПСС. Амаль усе савецкія газеты ў адно імгненне сталі антысавецкімі. Стала магчыма гаварыць тое, што думаеш, самім выбіраць сабе ўладу, свабодна выязджаць за мяжу.

Гэта быў эмацыйны і надзвычай узрушвальны момант гісторыі. Амаль усе ўсходнееўрапейскія краіны былога «сацлагера» і былыя савецкія рэспублікі перажывалі вялізны нацыянальны ўздым – гэта было відавочна нават на адлегласці, адчувалася праз экран тэлевізара. Сотні тысяч людзей на вуліцах і плошчах... Маршы і «ланцугі салідарнасці» працягласцю ў тысячу кіламетраў. Нацыянальныя сцягі на кожным будынку, у руках соцень тысяч людзей. Народы, якія дзесяцігоддзямі жылі ў няволі, пазбаўляліся ад страху і віталі надыход свабоды. У Беларусі было па-іншаму. Можна цешыць сябе ілюзіямі і прыхарошваць уласныя ўспаміны, але калі цвяроза і безэмацыйна паспрабаваць зірнуць у твар уласнай мінуўшчыне, то перад вачыма паўстае іншае. Беларусы ў сваёй большыні маўчалі. І назіралі за тым, што адбываецца наўкол, з недаверам і трывогай.

Памятаю, удзень 19 і 20 жніўня 1991-га я шмат хадзіў па малалюдным цэнтры Мінска – праспектам Скарыны, плошчай Леніна... Ніякіх мітынгаў і пікетаў, толькі людзей прыкметна менш, чым звычайна. Да чыноўнікаў было не дазваніцца – усе раптам аказаліся ці ў адпачынку, ці захварэлі.

Дзякуючы свайму журналісцкаму пасведчанню зайшоў у Дом урада, у Вярхоўны Савет. Там таксама было малалюдна і ціха. На лесвіцы паспрабаваў спыніць пытаннем пра ГКЧП дэпутата Дзмітрыя Булахава, які некуды спяшаўся... Адказваў ён на хаду і вельмі асцярожна: «Трэба думаць... Не ўсё так адназначна... Каментары будуць пазней». Потым, увечары і ў наступныя дні, калі стала вядома, што Ельцын перамог, што арыштаў і надзвычайнага становішча не будзе, на плошчы збіраліся па некалькі соцень чалавек...Але ўсё гэта не ішло ні ў якае параўнанне з тым, што адбывалася ў тыя дні ў Маскве, Кіеве, Вільнюсе, Тбілісі...

Унікліва і пунктуальны Сяргей Навумчык, мой сябар і калега, як самы дасканалы летапісец беларускай рэчаіснасці пачатку і сярэдзіны 1990-х, без сумневу, да самых драбніц і дэталяў апісаў ледзь не кожную гадзіну і хвіліну тых дзён. Я ні кроплі не сумняваюся ў пратакольнай дакладнасці напісанага ім. Але калі гаварыць пра мае ўласныя ўражанні відавочцы і сведкі таго, што тады адбывалася ў Беларусі, то не пакідае адчуванне, што Беларусь і беларусы проста моўчкі плылі ў агульнай плыні туды, куды яна несла. Для пераважнай бальшыні тых сугрworld... сугрvärlden

У нас не было соцень тысяч на вуліцах. Не было ўрачыстых спускаў старога сцяга і ўздымання новага. Не было адчування гістарычнасці таго, што адбывалася. Нібы гісторыя рабіла круты паварот недзе там, далёка, у суседзяў, але не ў нас.

Тыя спеўныя, «аксамітныя» рэвалюцыі ў суседніх краінах былі па сутнасці негвалтоўнымі і некрывавымі, светлым і шчаслівым момантам для нацый. Якія людзей згуртавалі і загартавалі...

І нават супрацьстаянне з калісьці грознымі спецслужбамі было там найчасцей трохі аперэтачным, бутафорскім, нібы несапраўдным. Міліцыянты складвалі свае шчыты і дубінкі, яшчэ ўчора ўсёмагутныя партыйныя бонзы хаваліся на дачах і ў санаторыях, улада сама спелым яблыкам падала ў рукі ахмялеламу ад свабоды натоўпу. Фактычна ўсе суседзі Беларусі шчасліва выслізнулі з жалезных абдымкаў імперыі ў тое ненадоўга расчыненае акно магчымасцяў, якое адкрылася дзякуючы аслабелай хватцы Масквы...

Мы ўсяго гэтага не перажылі. Не ацанілі. Не адстаялі на плошчах і ў «ланцугах салідарнасці», узяўшыся за рукі; не адсвяткавалі, не адчулі ўсю глыбіню і эпахальнасць вялікага моманту пазбаўлення ад страху і несвабоды. І ўзамен атрымалі несапраўдную незалежнасць і несапраўдную свабоду. Усё вярнулася праз трыццаць гадоў у яшчэ больш страшных гратэскавых формах. Тое, што для іншых гістарычны лёс звёў у некалькі шчаслівых дзён, для нас расцягнуў на доўгія дзесяцігоддзі, якія завяршающа драмай масавых палітычных рэпрэсій і татальнага страху ў грамадстве.

### У чаканні, калі па цябе прыйдуць людзі ў чорным

Гэты страх нібыта выпаўз з патаемных куткоў свядомасці, вярнуўся з паўзабытых сямейных успамінаў. Гэта нават не наш страх, а працяг жахаў, перажытых нашымі бацькамі і дзядамі.

Бо для нас, народжаных у савецкай несвабодзе 1950–1970-х, таго штодзённага страху сталінскай эпохі ўжо, па сутнасці, не было. Выгадаваныя за жалезнай заслонай, мы не ведалі іншага жыцця. Правілы савецкай рэчаіснасці ўспрымаліся як норма. Савецкаму журналісту ўзору 1970–1980-х не прыйшло б у галаву насміхацца над выбарамі ў Вярхоўны Савет, у якіх у бюлетэні мог быць толькі адзін прызначаны зверху кандыдат, што перамагаў з вынікам 99 працэнтаў. Былі тэмы, пра якія не было прынята пісаць: гэта ведаў кожны і ўспрымаў як дадзенасць. Абывацель, які часта быў не задаволены рэаліямі цяжкай паўсядзённасці, не даўмеўся б выйсці на плошчу з плакатам. Гэта было па-за правіламі савецкай рэчаіснасці. Нас змалку прывучылі лічыць гэта нормай. Мы сапраўды не ведалі іншага жыцця.

Вядома, існаваў і перакazваўся з вуснаў у вусны досвед папярэдніх пакаленняў. Бабуля, а потым мама да канца сваіх дзён успаміналі, як у 1940 годзе нехта з сельсаветчыкаў пагражаў вывезці іхнюю сям'ю «да белых мядзведзяў» – за тое, што дзед служыў у польскім войску, што мелі ўласную кузню. Пагрозы былі не пустымі: фурманкі з сасланымі сем'ямі штодня праязджалі за вокнамі ў бок мястэчка. І ўсе ведалі: тыя людзі зніклі бясследна. Бабуля і пяцёра малых дзяцей ужо нават звязалі ў клункі самыя неабходныя рэчы і жылі ў чаканні найгоршага. Штодня кленчылі перад абразамі і маліліся. З жахам успрымалі кожны нечаканы стук у дзверы. І так многія месяцы. Жыць з такім страхам, відавочна, было невыносна. Але куды было падзецца – з малымі дзецьмі, ад свайго кавалку зямлі, які карміў; ад сваякоў, якія дапамагалі выжыць без забранага на вайну і зніклага гаспадара.

Гэтыя аповеды ў сваім маленстве я ўвесь час чуў ад бабулі і мамы, гэта, без сумневу, стала для іх адным з самых страшных жыццёвых перажыванняў. Але ўспрымалася гэта ў дзіцячым уяўленні хутчэй як сівая даўніна, якая засталася ў гісторыі, якая не можа здарыцца са мной, цяпер, у наш новы час, калі ўжо начамі не прыязджалі варанкі і не забіралі бясследна людзей. Гэта быў нібыта чужы страх, які застаўся ў гісторыі, у чужым жыцці. Але настаў дзень, калі людзі ў чорным пагрукалі і ў мае дзверы.

Як злавесна і драматычна гучаць сёння радкі Осіпа Мандэльштама, напісаныя 90 гадоў таму:

*Я на лестнице черной живу, и в висок*
*Ударяет мне вырванный с мясом звонок,*
*И всю ночь напролет жду гостей дорогих,*
*Шевеля кандалами цепочек дверных.*

Сёння здаецца неверагодным, але гэтыя верш (што праўда, крыху падпраўлены) гучаў у Савецкім Саюзе ў выглядзе песні ў выкананні Пугачовай яшчэ ў канцы 1970-х гадоў – у той час, калі нібыта лютавала савецкая цэнзура. Тады гэта ўспрымалася, пэўна, як фронда, але не як адсылка да актуалій мо не надта светлай, але ўжо і не крывавай брэжнеўскай рэчаіснасці, у якой пра Сталіна і палітычныя рэпрэсіі не прынята было згадваць.

У сённяшняй Беларусі гэтыя радкі гучаць і ўспрымаюцца зусім інакш. Менавіта яны – першае, што прыйшло мне на памяць, калі з сёлета 16 ліпеня ўбачыў вырваны «з мясам» званок і выбітыя дзверы мінскага офіса Радыё Свабода – месца працы маё і маіх калег. Вобразы, якія здаваліся даўно зніклымі, уварваліся ў нашу паўсядзённасць у сваім пачатковым, будзённым, неметафарычным сэнсе. (Цікава, імя Мандэльштама з універсітэцкага курса расійскай літаратуры яшчэ не выкраслілі? І колькі дзён арышту атрымае студэнт, які наважыцца працытаваць такія, напрыклад, радкі Мандэльштама:

*Как подкову, кует за указом указ –*
*Кому в пах, кому в лоб, кому в бровь,*
*кому в глаз.*
*Что ни казнь у него – то малина*
*И широкая грудь осетина.)*

### Страх – апошняе, што цэментуе гэты рэжым і не дае яму развальцца

«Не бойцеся!» – заклікаў некалі, напрыканцы 1970-х гадоў, сваіх прыгнечаных камуністычным рэжымам суайчыннікаў вялікі сын польскага народа пантыфік Ян Павел ІІ. Гэты заклік прагучаў у вельмі змрочны для палякаў час, калі надзеі на перамогу праўды і справядлівасці амаль не было, калі камуністычныя рэжымы на ўсёй прасторы ад Балтыкі да Балкан выглядалі непарушнымі і маналітнымі. І мінула больш за дзесяцігоддзе, перш чым змены там адбыліся.

Гэтаксама сённяшні змрок, які апусціўся над Беларуссю і скаваў грамадства страхам і адчаем, дае вельмі мала надзеі на хуткія змены.

Няма сумневу, што ён – той, хто ведае ўсё лепш за ўсіх, – гвалтам, закаваўшы рукі кайданкамі і падганяючы міліцэйскай дубінай, будзе цягнуць 9-мільённы народ у тыя 1970-я, якія, напэўна, здаюцца яму блаславёнымі, камфортнымі і шчаслівымі. Дзе ўсе аднадушна «галасавалі» за дзейную ўладу. Дзе ніякіх газет і тэлеперадач, якія б дазвалялі сабе ўсумніцца ў бязгрэшнасці і вечнасці рэжыму... Дзе на тэлебачанні кожны выпуск навін – пра геніяльнасць правадыра, яго ныя няспынныя поспехі і дасягненні, а таксама пра загніванне Захаду і «пакуты» тых, хто там жыве.

Цалкам дапускаю, што ён сам шчыра верыць у тое, што ў гэтым і ёсць гармонія суіснавання чалавека і дзяржавы, і ўсё тое – дабро для грамадства. А наўдзячнае насельніцтва проста не хоча гэтага зразумець. І адзіны сродак, якім гэтых неразумных можна зрабіць шчаслівымі, – татальны ўсёпранікальны страх... Без страху людзей туды не зацягнеш. Ён добра запомніў: Гарбачоў вызваліў людзей ад страху – і ўся савецкая аўтарытарная сістэма без гэтага стрыжня імгненна рассыпалася. Страх скоўвае волю, паралізуе здольнасць да супраціву і дазваляе цягнуць бязвольную істоту туды, куды хочаш. І тады можна жалезным кулаком загнаць людзей назад, у «шчаслівую» савецкую мінуўшчыну – такую, якой ён яе памятае і па якой настальгуе.



Фота мае ілюстрацыйны характар.

